## Не каардынацыя а дамінацыя

насьцямі. Для гэтага ён, зразумела, і быў пісаны.

Ведамая рэч, што на ўсім дэмакратычным сьвеце ўсякія міжнацыянальныя арганізацыі, рады ці іншыя палітычныя целы, дзеюць заўсёды на прынцыпе роўнасьці кажнага народу, незалежна ад ягонай вялічыні. Гэты дэмакратычны прынцып асnаваны на сьведамасьці роўнага прыроднага права кажнага народу — вялікага й малога — на вольнае самастойнае жыцьцё. Адны расейскія прадстаўнікі ў Мюнхене зажадалі й дамагліся ад „нацыяналаў” адумысловага прывілею, прывілею, якога ня мае ніводзін народ на сьвеце: ня быць роўнымі, быць „лепшымі”.

Яшчэ больш цікава й характэрна тое, што, забыўшы свае абавязкі стойка бараніць правы сваіх народаў, на такі паніжальны „Мюнхен” пайшлі тыя дэлегаты каўказцаў, што падпісалі гэты статут. Нават і ў бальшавіцкім „Савеце Нацыянальнасьцяў” кажнай саюзнай рэспублікі прызнанае роўнае прадстаўніцтва па 25 дэлегатаў, бяз ніякіх фармальных прывілеяў рэспублікі расейскай.

Тыпова вялікадзяржаўны падыход выяўлены й у іншых пунктах статуту, хаця-б у параграфах аб народным „волеізьліяньні”, дзе праводзіцца выразная тэндэнцыя забясьпечыць за кажную цану цэласьць сваёй імпэрыі, ды права панаваньня над іншымі. А калі-б яны былі запраўды „дэмакратамі”, за якіх любяць рэклямавацца, дык павінна было-б быць зусім наадварот: трэба было-б перадусім дбаць, каб была загварантаваная, і якнаймацней, свабода кажнаму народу. Бо чаго-ж тут баяцца? Калі, як цьвердзяць расейскія „дэмакраты”, усе народы проста „чаюць”, каб аставацца й надалей пад расейскім панаваньнем, дык атрымаўшы свабоду яны й пастановяць праз свае народныя органы аб далучэньні да Расеі, цяпер ужо запраўды дабраахвотна, і з гэткага прылучэньня Расея ды расейскі народ будзе мець толькі чыстыя карысьці палітычна-маральнага характару. Ніхто пасьля гэтага ўжо ня мог-бы ўскінуць на вочы, што „імпэр'ялістыя”, што „жывуць награбленым”. Дык нашто тут фарысейскі страх?

Агульны вывад ясны: Мюнхенскі статут і „Цэнтар” створаныя пад дыктоўку расейскіх палітыкаў з выразнаю вялікадзяржаўнаю ідэалёгіяй. Дзеля гэтага й нічога дзіўнога, што пад такім статутам і такою „плятформаю” не знайшлося ані подпісу беларускага, ані украінскага, ані подпісаў рэпрэзэнтацыйных прадстаўніцтваў бальшыні іншых нацыянальнасьцяў СССР. Сумленныя прадстаўнікі сваіх народаў падпісаць яго й ня могуць. Падпішуць яго хіба толькі штучна падстаўленыя „рэпрэзэнтанты”, або купленыя за грошы авантурнікі. Але й рэпрэзэнтаваць яны будуць там толькі сябе, а ніколі інтарэсы, правы ды імкненьні сваіх народаў.

Што-ж далей? Чаго трэба чакаць пасьля такое „удачы”?

Выглядае, што на будучыню ёсьць дзьве магчымасьці: або з добрай волі ўсіх дэмакратычных эміграцыяў паўстане нарэшце запраўды паважны Палітычны Цэнтар з прадстаўнікоў усіх зацікаўленых народаў бяз ніякіх недэмакратычных прывілеяў для народу аднаго, а на асновах поўнай роўнасьці, і тады такі цэнтар знойдзе добры водгук і моцнае падтрыманьне усей дэмакратычнай эміграцыі народаў СССР, стаючыся паважнай ідэолёгічнай зброяй у антыбальшавіцкім змаганьні вольнай дэмакрацыі або — будзе штучна створаны „Цэнтар” на асновах сучаснага статуту, гэта значыцца пад загадамі расейскіх эміграцыйных палітыкаў ды з падстаўленых бязпрынцыпных людзей іншых нацыянальнасьцяў. Пры гэткім палажэньні ўся шматнацыянальная эміграцыя з прастораў СССР будзе пастаўленая ў прымусовую неабходнасьць абароны перад непраўнай узурпацыяй палітычных правоў іхных народаў, ды будзе змушаная весьці прапаганду, каб усьведамляць сьвет аб хвальшывасьці „Цэнтру”, як прадстаўніцтва народаў СССР.

Палітычны зудар такога „Цэнтру” із шматмільённай эміграцыяй усіх нерасейскіх народаў на ўсім сьвеце будзе тады німінучым, і віну за ўсе вынікі такога зудару панясуць аўтары сяньняшніх мюнхенскіх статутаў, а ўсе карысьці запіша сабе на прыход той вораг, проці якога Цэнтар, быццам, арганізуецца.

Вось аб гэтым трэба сяньня вельмі паважна задумацца як расейскім аўтарам мюнхенскіх „парытэтаў”, так і іхным амэрыканскім пратэктарам.

**В-іч.**

# Аб афіцэрскіх рангах

Тое, аб чым даводзіцца мне тут пісаць, — гэткае простае й зразумелае кажнаму цывілізаванаму чалавеку, што, здавалася-б, няма ніякае патрэбы нат прыгадваць гэтую справу, гублячы час і займаючы месца ў газэце. Аднак, некаторыя факты, што заіснавалі апошнім часам у асяродзьзі часткі нашае эміграцыі, змушаюць мяне да выступленьня з колькімі заўвагамі аб афіцэрскіх рангах і павазе афіцэрскае годнасьці.

Афіцэрскія рангі надаюцца скрозь на сьвеце галавою дадзенае дзяржавы на прапанову камандзіраў вайсковых адзінкаў і кажны кандыдат да афіцэрскае рангі мусіць мець неабходныя для данае рангі кваліфікацыі. Гэтымі кваліфікацыямі ёсьць —вайсковая веда, здольнасьці да камандваньня й высокі маральны узровень кандыдатаў. Дзеля падрыхтоўкі кандыдатаў на афіцераў у кажным гаспадарсьцьве існуюць афіцэрскія школы й курсы розных ступеняў, а таксама й вайсковыя акадэміі. Скончыўшы школу, кандыдаты мусяць прайсьці яшчэ вайсковы стаж у аддзелах, дзе на практыцы выяўляюцца іхныя камандныя здольнасьці. Здараецца, што ў часе вайны, за асаблівыя баявыя чыны на фронце, вайскоўцы ніжэйшых ступеняў атрымліваюць першую афіцэрскую рангу, але пры першай-жа нагодзе яны адсылаюцца ў афіцэрскую школу, дзе й атрымоўваюць неабходныя, зьвязаныя із новай рангай, тэарэтычныя веды.

Апошнім часам, пачалі, аднак, шырака разыходзіцца весткі аб тым, што ведамы сп. Астроўскі, актывізуючыся яшчэ раз у палітыцы й ня маючы блізу нікога за сабою, надумаў здабываць сабе прыхільнікаў, раздаючы направа й налева афіцэрскія рангі, а наўзьверх — гэткім асобам, якія ня маюць ніякіх кваліфікацыяў на афіцэраў, часта-густа навет тым, што ніколі яшчэ ў ніякім войску ня былі, а калі й былі — сумлеўна, ці маглі здабыць веду хаця-б на ўзроўні падафіцэра. Гэтым вось асобам сп. Астроўскі й пачаў кагадзе надаваць рангі... маёраў, палкоўнікаў і г. п.

Дзіўным чынам, гэтыя апошнія авансы сп. Астроўскага нагадваюць мне сцэну пасаваньня на рыцара славутага героя раману Сэрвантэса — Дон Кіхота й не ад рэчы будзе прыгадаць яе гэтта.

Дон Кіхот, хворы псыхічна зьбяднелы гішпанскі шляхціц, начытаўшыся кніжок аб ваяўных прыгодах сярэднявечных рыцараў, наважыў паехаць у сьвет шукаць рыцарскіх чынаў. Першая-ж карчма, якую ён сустрэў па дарозе, здалася яму ў ягоным хворым уяўленьні магутным замкам, а гаспадар ейны - карчмар — уладарным гэрцагам. І вось, паўшы на калені перад карчмаром, Дон Кіхот пачаў прасіць яго, каб ён, згодна із сярэднавечнымі звычаямі, узьвеў ці пасаваў яго ў рыцары. Каб адчапіцца ад вар'ята, спрытны карчмар пагадзіўся й на карчомным панадворку, пры карыце, зь якога паілі коняў ды мулаў, „пасаваў” Дон Кіхота на рыцара, ужываючы заместа зазубленага ў пераможных змаганьнях мяча, звычайную мешалку, пасьля чаго шчыра ўзрушаны Дон Кіхот і паехаў у сьвет па рыцарскія прыгоды.

Што сп. Астроўскі здольны быць гэткім спрытным карчмаром, — рэч зусім магчымая, з тэю толькі розьніцай, што „пасуе” ён на „рыцараў” нашых прыгодных Дон Кіхотаў з мэтаю не пазбыцца іх, а, наадварот, прыцягнуць. Але цяжка, запраўды, зразумець тых людзёў, што ў добрай, хіба, веры прыймаюць ад яго гэтыя авансы. Гэта — або непапраўныя наіўныя, або авантурыстыя, якія прагнуць гонараў і высокіх рангаў, або людзі із псыхічным станам Дон Кіхота.

За часоў апошняе нямецкае акупацыі, калі сп. Астроўскі быў пакліканы Генэральным Камісарам Беларусі на прэзыдэнта г. зв. Беларускае Цэнтральнае Рады й атрымаў дазвол арганізаваць Беларускую Краёвую Абарону, — дык немцы, зусім не разьбіраючыся ў беларускіх вайсковых справах, дазволілі сп. Астроўскаму надаваць і афіцэрскія рангі, важныя толькі для БКА. І сп. Астроўскі, як прэзыдэнт БЦР, тады гэтыя рангі надаваў, аднак, толькі на прапанову штабу БКА, што знаходзіўся пры БЦР, прытрымліваючыся гэткім чынам некаторых формаў. Пры штабе была навет створаная адмысловая камісія, якая спраўджала дакуманты афіцэраў й на падставе гэтага сьцьверджаньня прапанавала прэзыдэнту БЦР прызнаць тую ці іншую рангу кандыдатам. Аднак, рангі гэтыя ён надаваў не як галава беларускае дзяржавы, а як прэзыдэнт эпізадычнае — БЦР, за плячыма якое стаялі нямецкія акупацыйныя ўлады. Калі-ж акупацыйная ўлада пакінула Беларусь і перастала існаваць, — скончылася й БЦР, а разам з гэтым і ўсе паўнамоцтвы сп. Астроўскага, атрыманыя ад немцаў.

Сяньня сп. Астроўскі адно кампрамітуе сваймі авансамі беларускія афіцэрскія рангі, зь якой мэтай — цяжка сказаць. У будучыні, калі нашая беларуская дзяржава нарэшце ўскрэсьне, — сп. Астроўскаму напэўна давядзецца адказваць за гэткія свае чыны. Ясна таксама, што шчодра раздаваныя сяньня сп. Астроўскім афіцэрскія рангі ніколі запраўднымі беларускімі вайсковымі ўладамі прызнаныя ня будуць.

На эміграцыі ёсьць шмат беларускіх афіцэраў, раскіданых па ўсім блізу сьвеце. Між імі — і людзі высокіх рангаў ды з высокімі вайсковымі кваліфікацыямі. Гэта афіцэры, якія, дзякуючы ўмовам паняволеньня нашае бацькаўшчыны, служылі перад 1939 годам у чужых, польскай, савецкай ды інш. арміях, скончылі там афіцэрскія школы й прайшлі баёвы стаж на палёх змаганьня другое сусьветнае вайны.

Аднак, сярод авансаваных Астроўскім „вайскоўцаў” нікога зь іх няма. І гэта ня дзіва, бо ніхто з запраўдных жаўнерау і разважных беларускіх патрыётаў, шануючы сябе, гэткага авансу ня прыйме.

Мы, беларускія вайскоўцы, верым аднаму, — што неўзабаве ўжо можа прыйдзе час, калі нам давядзецца ўзяцца за зброю й паказаць свае вайсковыя якасьці, выказацца вайсковаю ведай і камандымі здольнасьцямі у змаганьні з панявольнікамі Беларусі. Тады, дасьць Бог, шмат хто з нас здабудзе й належныя яму афіцэрскія рангі.

Рангі гэтыя будуць удвая дарагія кажнаму з нас, бо асьвечаныя яны будуць крывёю, пралітаю за вызваленьне Бацькаўшчыны, за незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі.

**Ф. Кушэль.**

### „ІМКНУЦЦА ПАНЯВОЛІЦЬ БЕЛАРУСАЎ”

(Канец з 1 бал.)

лёных тэмпаў і паміраюць ля варштатаў...

„Клясычны” прыклад савецкае маны даець і камэнтар аб выбарах ген. Айзэнгаўэра, паданы па радыё загадчыкам аддзелу прапаганды й агітацыі ЦК Камуністычнае Партыі Беларусі Халіпавым:

„Заправілы Ўолстрыту імкнуцца зрабіць Беларусь сваёй калёніяй, а беларусаў паняволіць і перавярнуць у рабоў амэрыканскага імпэрыялізму. Аб гэтым, не саромячыся, гаварыў навет сам Айзэнгаўэр у аднэй із сваіх перадвыбарных прамоваў”.

Распаленьне ненавісьці супраць ЗША ў паняволенай Беларусі ўсьцяж расьце й мацнее. Імпэтнасьць і нэрвовасьць савецкіх радыяфонаў нагэтульки павялічылася, што, выглядае, быццам усе гэтыя гвалтоўныя перадачы накіраваныя да пэўнае й недалёкае мэты.

**М. К.**

# АД МЕНСКУ ДА ЛОДЗІ

(працяг з нумару 15-га)

Другая канцэпцыя парадку ў новапаўсталай Польшчы — была канцэпцыяй польскіх нацыяналістых, арганізаваных у партыю г. зв. нацыянальных дэмакратаў (Narodowa Demokracja), ведамая ў скарочаньні пад назваю НД-эндэкаў. На чале гэтае партыі стаяў выдатны палітык Раман Дмоўскі. Эндэкі не прызнавалі ні беларусаў, ні украінцаў. Адзінымі народамі, вартымі мець сваю незалежную дзяржаву яны лічылі палякаў ды расейцаў. Паводле канцэпцыі нацыянальных дэмакратаў мелася паўстань вялікая Польшча „ад мора да мора” з усходняй мяжой з 1772 году. За гэтай партыяй ішло ўсё абшарніцтва, шмат інтэлігенцыі і блізу ўсё польскае каталіцкае сьвятарства. Дзякуючы гэтаму, Эндэцыя была вельмі ўплывовая й дужая.

У меру таго, як армія Пілсудскага займала прасторы Беларусі, эндэкі захаплялі на нашых землях . цывільную ўладу. На чале нашых паветаў і гмінаў апынуліся мясцовыя польскія панкі. Навет солтысы ў вёсках вызначаліся з рэкамандацыі мясцовых польскіх ксяндзоў. Уся гэтая адміністрацыя была вельмі варожая ў дачыненьні да беларускага нацыянальнага руху. Яна кінула была спрытны лёзунг, быццам беларус і бальшавік — гэта адно, і як магла нішчыла ўсе праявы беларускага руху на мясцох, выдаючы іх за варожыя бальшавіцкія акты. Гэткім чынам было вынішчана шмат сьведамых беларусаў. Не магу ня ўспомніць гэтта аб двох маладых беларускіх пастаўніках — патрыётах з вёскі Сярэдняе Сяло ў Валожыншчыне, — Радзюку й Наквасу, якія як расказвалі іхныя суседзі аднавяскоўцы, былі растраляныя бяз суду прыпадковым польскім кавалерыйскім патрулём па даносу мясцовага ксяндза.

Няхай гэты ўспамін будзе вянком на іхную магілу.

Гэтак, у Беларусі стварылася дзіўное палажэньне: уся вайсковая ўлада была ў руках Пілсудскага й ягоных прыхільнікаў, а цывільная адміністрацыя — у руках Эндэкаў. Дзьве гэтыя канцэпцыі зацята змагаліся міжсобку і найбольш пакутвалі ад гэтага якраз беларусы.

Пад вясну 1920-га году прапагандна-вярбункова курс Беларускае Вайсковае Камісіі скончыўся й нова-выпушчаныя вярбаўнікі, забясьпечаныя наймацнейшымі дакумантамі, былі выпраўленыя на правінцыю дзеля вярбоўкі жаўнераў у беларускія вайсковыя аддзелы. Мінула колькі часу, а ахвотнікі не згалашаліся. Згінулі, як у ваду, і вярбаўнікі. Людзі, якія прыяжджалі з правінцыі паведамілі БВК, што мясцовыя адміністрацыйныя ўлады арыштавалі й пасаджалі ў турмы ўсіх нашых вярбаўнікоў. Прадстаўнікі ад БВК склалі тады генэральнаму камісару Беларусі Рачкевічу войстры пратэст. Рачкевіч удаў вялікае абурэньне й выслаў загады, каб арыштаваных беларускіх вярбаўнікоў з турмаў вызвалілі. Гэтак неўзабаве й сталася, але было згублена шмат каштоўнага часу. Апрача таго, гэткае самаўпраўства польскіх адміністрацыйных уладаў на мясцох напалохала некаторых вярбаўнікоў, яны выракліся свайго заданьня, й справа наплыву ахвотнікаў у беларускія адделы прыпазьнілася.

Гэтыя ды іншыя падобныя здарэньні вельмі абурылі камандуючага беларускімі вайсковымі аддзеламі палкоўніка Канапацкага, як і ўсіх сяброў Камісіі. У пачатку чырвеня адбылося вельмі бурнае паседжаньне БВК, на якім палк. Канапацкі падаўся у дымісыю. Пакінуў БВК й ейны дасюлешні старшыня Аляксюк. Сьпярша і ўсе сябры камісіі займелі думку падацца ў дымісыю, аднак, разважыўшы, што гэта адно яшчэ больш пашкодзіла-б нашай справе, бо ў аддзелы было ўжо навярбавана шмат ахвотнікаў, а пры Варшаўскай школе падхаронжых быў створаны наш зьвяз, было пастаноўленае трымацца да канца, каб належна ўсімі гэтымі людзьмі апекавацца.

Прыйшоўшы да гэткае пастановы, сябры, што засталіся ў Камісіі, папоўнілі яе яшчэ на гэтым самым паседжаньні. На старшыню Камісіі быў выбраны стары беларускі дзеяч Францішак Умястоўскі, а дзеля таго, што жыў ён тады ў Вільні, да часу ягонага прыбыцьця ў Менск, выкананьне абавязкаў старшыні БВК было даручанае капітану Кушэлю.

Даведаўшыся аб тым, што сталася ў Бел. Вайск. Камісіі, польскія вайсковыя ўлады, не хаваючыся, выказалі сваё вялікае нездаваленьне й без паразуменьня з ёю зусім нечакана, баючыся, відаць, яшчэ больш рэвалюцыйных зьменаў, вызначылі камандзірам беларускіх аддзелаў польскага маёра Завісьляка, які навет і ня гутарыў па беларуску. Гэта было паважным ударам па БВК, але выхаду ня было, трэба было заставацца на раз занятым пасту.

У міжчасе, ахвотнікі з вёскі ўсьцяж наплывалі і паасобку, і цэлымі групамі. Назьбіралася зноў і шмат моладзі з асьветай. Камісія выступіла з новым хадайніцтвам перад польскім галоўным камандваньнем, просячы адчыніць другі беларускі зьвяз пры польскай школе падхаронжых. Гэткі зьвяз быў неўзабаве адчынены, але ўжо не пры Варшаўскай, а пры Быдгоскай афіцэрскай школе і Камісія накіравала туды сорак кандыдатаў. Гэткім чынам, пры польскіх школах падхаронжых вучыліся на афіцэраў ужо семдзесят маладых беларусаў.

На фронце, аднак, насьпявалі важкія й невясёлыя падзеі. У канцы чырвеня бальшавіцкая армія пачала вельмі актывізавацца. Ясна вычувалася, што бальшавікі намацваюць слабое месца, каб прарваць фронт. 11-га ліпеня 1920 году гэтак і сталася. Фронт быў прарваны й польская армія была змушаная адступаць. Пачаўся г. зв. ”марш Тугачэўскага на Варшаву”. У Менску была абвешчаная эвакуацыя. Маёр Завісьляк выстраіў два цалкам ўжо арганізаваныя беларускія батальёны, на загад польскага камандваньня улучыўся ў шэрагі польскае арміі, што пакідала Беларусь і пехатою памашыраваў на захад. Выехала з Менску й БВК, заладаваўшыся ў адзін з апошніх вайсковых цягнікоў. Першы прыпынак эшэлёну, у якім знаходзілася БВК быў у Ваўкавыску. Тут захварэў на дэзынтэрыю сябра Камісіі Аляксандр Прушынскі (паэт Алесь Гарун). Камісіі пашэньціла памясьціць цяжка хворага ў санітарны цягнік, што прыпадкам здарыўся на станцыі. Гэтым цягнікам Алесь Гарун быў адвезены аж у Кракаў, у вайсковы шпіталь, дзе неўзабаве й памёр.

Вестка аб ягонай сьмерці, якая засьпела Камісію яшчэ ў дарозе, зрабіла на ўсіх вельмі цяжкое ўражаньне. Тымчасам, БВК прыбыла ў Варшаву і тут галоўны польскі штаб накіраваў яе у места Лодзь.

Прыблізна праз тры тыдні прымашыравалі ў Лодзь і беларускія батальёны, якія ўсю дарогу ад Менску да Лодзі прайшлі пехатою, паўстрымліваючы ў частых баёх гвалтоўны напор савецкае чырвонае арміі.

канец будзе)

**Ф. Кушэль.**

